ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 45 (2571)
ПЯТНІЦА
5
лістапада 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## НЯХАЙ ЖЫВЕ ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК, ЯКІ АДКРЫЎ НОВУЮ ЭПОХУ СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ—ЭПОХУ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА АБНАЎЛЕННЯ СВЕТУ, ПЕРАХОДУ АД КАПІТАЛІЗМУ ДА САЦЫЯЛІЗМА!

З Заклікаў ЦК КПСС да 54-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.



**Героі Вялікага Кастрычніка! Героі разняволенай Кастрычнікам працы! Героі — абаронцы Радзімы ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайнаў!.. Яны — асноўныя героі нашага мастацтва.**

**Наш зямляк, удзельнік штурму Зімняга палаца паэт Алесь Гурло, апяваючы незабыўныя дні лістапада 1917, усклікаў:**

*Я дань прынёс, хоць і малую...*
*Прымі яе, жыві, красуй!*
*Я сцяг чырвоны пацалую*
*І ў даль адважна панясу.*

**Так, словы паэта гучаць, як клятва не аднаго яго. Сыны і ўнукі тых, што штурмавалі Зімні, у гады Вялікай Айчыннай адстаялі ад ворагаў горад Леніна над Нявой, горад рэвалюцыі.**

Ім, ленінградскім маракам, прысвечана новая кампазіцыя беларускага мастака Л. Асецкага «Матросы» (кардон, вугаль). Гэта толькі частка твора, над якім працуе мастак. Рэпартаж з майстэрні Л. Асецкага чытайце на стар. 6—7...

# СВЯТА НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

## БЕЛАРУСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ УНІВЕРСІТЭТУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА — 50 ГАДОЎ

## Беларускаму дзяржаўнаму ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэту імя У. І. Леніна

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Беларускай ССР горача віншуюць прафесарска-выкладчыцкі састаў, студэнтаў, рабочых, служачых, увесь шматтысячны калектыў Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэта імя У. І. Леніна з 50-годдзем з дня заснавання універсітэта.

Стварэнне Беларускага дзяржаўнага універсітэта і станаўленне вышэйшай адукацыі ў Беларусі стала магчымым у выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, паслядоўнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі КПСС.

Паўвекавы юбілей універсітэта — вялікая знамянальная падзея ў грамадска-палітычным жыцці беларускага народа. Створаны па ініцыятыве Уладзіміра Ільіча Леніна, Беларускі дзяржаўны універсітэт з'яўляецца прызнаным флагманам вышэйшай школы рэспублікі, цэнтрам падрыхтоўкі высокакваліфікаваных нацыянальных кадраў. Больш чым 30 тысяч яго выпускнікоў плённа працуюць у самых розных галінах народнай гаспадаркі, культуры і навукі.

Беларускі дзяржаўны універсітэт цяпер з'яўляецца буйной навуковай установай. Яго вучоныя дабіліся значных вынікаў у вырашэнні актуальных навуковых праблем, іх дасягненні справядліва атрымалі шырокую вядомасць і прызнанне. На базе універсітэта і з яго дапамогай створаны многія вышэйшыя навучальныя ўстановы і навукова-даследчыя ўстановы Беларусі. Неацэнны яго ўклад у фарміраванне і развіццё нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце культуры беларускага народа. Універсітэт выхаваў плеяду таленавітых вучоных, пісьменнікаў, паэтаў, педагогаў. Многія яго выпускнікі сталі арганізатарамі народнай гаспадаркі і культуры, вядомымі партыйнымі, дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад высока ацанілі заслугі універсітэта ў падрыхтоўцы кадраў і ў развіцці навуковых даследаванняў, узнагародзіўшы яго ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і Ленінскай юбілейнай граматай у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

Змагаючыся за ажыццяўленне рашэнняў гістарычнага XXIV з'езда КПСС, прафесары і выкладчыкі, партыйная, камсамольская і прафсаюзная арганізацыі універсітэта настойліва і мэтанакіравана ўзбройваюць маладых спецыялістаў асновамі марксісцка-ленінскага вучэння, закладваюць у іх трывалы фундамент ведаў, фарміруюць уменне выкарыстоўваць іх на практыцы, выхоўваюць актыўных барацьбітоў за навукова-тэхнічны прагрэс, за ажыццяўленне планаў камуністычнага будаўніцтва. Паляпшаючы навуковую і практычную падрыхтоўку спецыялістаў, пашыраючы іх тэарэтычны і культурны кругагляд, удасканальваючы арганізацыю навуковых даследаванняў, калектыў універсітэта ўносіць дастойны ўклад ва ўсенародны рух за хутчэйшае выкананне заданняў дзевятай пяцігодкі.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, Савет Міністраў Беларускай ССР выказваюць цвёрдую ўпэўненасць у тым, што прафесары і выкладчыкі, партыйная і грамадскія арганізацыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, кіруючыся рашэннямі XXIV з'езда КПСС і ўказаннямі, выкладзенымі ў выступленні Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева на Усесаюзным злёце студэнтаў, будуць яшчэ з большай настойлівасцю змагацца за павышэнне навукова-тэарэтычнага ўзроўню падрыхтоўкі студэнтаў і аспірантаў, творча ўдасканальваць навучальны працэс і развіваць навуковыя даследаванні, выхоўваць юнакоў і дзяўчат у духу марксісцка-ленінскага светапогляду, камуністычнай перакананасці, класавай самасвядомасці, непрымірымасці да любых праяўленняў буржуазнай ідэалогіі, бязмежнай любві і адданасці сваёй вялікай сацыялістычнай Радзіме.

Ва ўрачысты дзень 50-годдзя і ўзнагароджання універсітэта Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР жадаем калектыву БДУ новых вялікіх поспехаў у ганаровай і высакароднай справе падрыхтоўкі ідэйна стойкіх, высокакваліфікаваных спецыялістаў, у далейшым развіцці навукі і культуры Савецкай Беларусі.

| ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ | ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР | САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР |
|---|---|---|

## ПРАМОВА тав. П. М. МАШЭРАВА

Паважаныя нашы юбіляры і госці!

Дарагія таварышы і сябры!

Шматтысячны калектыў Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэта імя Уладзіміра Ільіча Леніна перажывае хвалюючыя дні. Прызнаны флагман беларускай вышэйшай школы адзначае свой паўвекавы юбілей. Гэта — свята не толькі выхаванцаў і супрацоўнікаў універсітэта. Гэта — свята ўсяго беларускага народа, свята нашай навукі і культуры, памятная, знамянальная дата ў гісторыі вышэйшай адукацыі ў Беларусі. Быць на гэтых урачыстасцях — вялікая радасць і асаблівы гонар.

Дазвольце мне ад імя Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, урада рэспублікі горача і сардэчна павіншаваць вас — удзельнікаў урачыстага сходу і ў вашай асобе ўсіх студэнтаў, прафесараў, выкладчыкаў, усіх выхаванцаў універсітэта, усіх работнікаў навукі і вышэйшай школы рэспублікі з гэтым выдатным юбілеем. (**Апладысменты**). Сімвалічна, што юбілейныя ўрачыстасці праходзяць у пярэдадзень пяцьдзесят чацвёртай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у перыяд, калі савецкі народ натхнёна і самаааддана працуе над ажыццяўленнем гістарычных рашэнняў XXIV з'езда ленінскай партыі, грандыёзных заданняў дзевятага пяцігадовага плана.

Дзецішча Кастрычніцкай рэвалюцыі, ленінскай нацыянальнай палітыкі — Беларускі універсітэт, яго слаўны калектыў унёс і ўносіць істотны ўклад у скарбніцу матэрыяльных і духоўных багаццяў нашага грамадства, у развіццё навукі і культуры, ва ўсенародную справу камуністычнага будаўніцтва.

Біяграфія універсітэта непарыўна звязана з біяграфіяй Савецкай Беларусі. Першы ў гісторыі беларускага народа, старэйшы ў рэспубліцы Белдзяржуніверсітэт быў адкрыты ў кастрычніку 1921 года па ініцыятыве Уладзіміра Ільіча Леніна, у адпаведнасці з яго практычнай дзейнасцю па развіцці універсітэцкай адукацыі ў краіне.

Так, дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, на беларускай зямлі быў запалены светач ведаў — створаны універсітэт, які расчыніў свае дзверы для тых, хто ўзяў у працоўныя, мазолістыя рукі пяро і алавак, кнігі і канспекты, каб штурмаваць вышыні навукі. Гэта былі нядаўнія байцы рэвалюцыі, маладыя рабоча-сялянскія парасткі, разбуджаныя Кастрычнікам да новага жыцця, ачышчанага ад рабства і прыгнёту. Дзяцей працоўнага народа прывялі сюды прага ведаў і палымяны ленінскі заклік: «Вучыцца, вучыцца, вучыцца!».

Тады, у першым цяжкім навучальным годзе, ва універсітэце займалася на рабфаку, медыцынскім факультэце, факультэце грамадскіх навук 1.390 студэнтаў, працавала 14 прафесараў і 49 выкладчыкаў.

Сёння ядро універсітэцкай прафесуры і выкладчыцкіх кадраў складае больш чым 500 прафесараў і дацэнтаў, доктараў і кандыдатаў навук. А на 14 факультэтах універсітэта вучыцца каля 18 тысяч студэнтаў. У гэтых лічбах відаць выдатны плён бацькоўскіх клопатаў партыі і ўрада аб уздыме культуры, адукаванасці савецкіх людзей. Развіццё універсітэта нібы ўвасабляе сабой бурны рост прадукцыйных сіл і магчымасцей сацыялізма, духоўнага, інтэлектуальнага патэнцыялу савецкага грамадства.

За пяцьдзесят гадоў свайго існавання Беларускі дзяржаўны універсітэт даў краіне 30-тысячную армію высокакваліфікаваных, ідэйна загартаваных спецыялістаў самых розных галін ведаў. Сёння нельга сабе ўявіць грамадска-палітычнае, гаспадарчае, культурнае жыццё рэспублікі без тых кадраў, якія штогод з універсітэцкім дыпломам уліваліся і ўліваюцца ў шэрагі актыўных будаўнікоў новага камуністычнага жыцця. Яны ішлі настаўнікамі ў глыбінныя беларускія вёскі, узначальвалі новыя школы і тэхнікумы, папаўнялі рады арганізатараў вытворчасці, стваралі заводскія лабараторыі і канструктарскія бюро, працавалі ва ўстановах культуры, станавіліся партыйнымі, савецкімі і камсамольскімі работнікамі. У любым кутку Беларусі, а таксама і за яе межамі можна сустрэць выпускнікоў БДУ. І ў тым, што наша рэспубліка стала краем суцэльнай пісьменнасці, высокага ўзроўню развіцця эканомікі і культуры, што яна мае сёння высокакваліфікаваныя навуковыя кадры, ёсць немалая доля плённых намаганняў калектыву Белдзяржуніверсітэта — праваштфлангавага беларускай вышэйшай школы.

Універсітэт—гэта не толькі кузня кадраў, але і адзін з прызнаных цэнтраў развіцця нашай навукі. Яго вучоныя паспяхова распрацоўваюць цэлы шэраг актуальных праблем сучаснай фізікі, матэматыкі, хіміі, біялогіі, якія маюць вялікае тэарэтычнае і народнагаспадарчае значэнне. Шырокія даследаванні вядуцца і выкладчыкамі грамадскіх навук.

Нельга не адзначыць і тое, што з першых крокаў свайго існавання і па сённяшні дзень універсітэт непарыўнымі ніцямі звязаны з беларускай літаратурай, у якую кожнае пакаленне яго студэнтаў давала нібы сваіх «паўпрэдаў». Тут вучыліся людзі, чый уклад у развіццё беларускай савецкай літаратуры, нацыянальнай культуры атрымаў шырокае грамадскае прызнанне. Са сцен універсітэта выйшлі Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Іван Мележ і многія іншыя вядомыя пісьменнікі і паэты.

Выпускнікі універсітэта на самых розных участках дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва сумленна і самаададана служаць справе партыі і народа, праяўляючы шырокую эрудыцыю, грунтоўную тэарэтычную падрыхтоўку, прафесіянальнае майстэрства, сваю палітычную і грамадзянскую сталасць. Тысячы універсітэцкіх выхаванцаў, студэнтаў і выкладчыкаў у часіну цяжкіх ваенных выпрабаванняў, у смяротнай сутычцы з фашызмам з гонарам выканалі свой патрыятычны абавязак. І сёння, у дзень вялікага свята, мы схіляем галовы перад памяццю тых, хто не вярнуўся з палёў бітваў, хто згарэў у агні свяшчэннай усенароднай вайны з фашысцкімі варварамі.

Незабыўнай старонкай у жыцці універсітэта, у жыцці рэспублікі сталі нялёгкія, гераічныя пасляваенныя гады. Тады студэнцкія аўдыторыі запоўнілі былыя франтавікі і партызаны, людзі, якія вытрымалі суровы экзамен на атэстат сталасці, стойкіх і верных салдат Айчыны. Іх жыццёвы і маральны вопыт, памножаны на веды, атрыманыя ва універсітэце, адыграў і адыгрывае неацэнную ролю ў хуткім аднаўленні і далейшым бурным развіцці народнай гаспадаркі і культуры, выхаванні нашай моладзі.

Універсітэт вывеў у вялікае жыццё не толькі значны атрад першакласных спецыялістаў. Ён стаў калыскай цэлага комплексу ВНУ рэспублікі. Ад яго, як ад мацярынскага дрэва, адгалінаваліся цяпер буйныя інстытуты: політэхнічны, медыцынскі, педагагічны, народнай гаспадаркі, якія па многіх напрамках паспяхова спаборнічаюць з БДУ.

Як кузня кадраў і аўтарытэтны ачаг навукі і ведаў, як шчодры сейбіт разумнага, добрага, вечнага універсітэт няспынна развіваецца ў духу патрабаванняў нашага часу. Гады не старэюць, а маладзяць яго. Ён заўсёды ў развіцці, у пастаянным абнаўленні, ён служыць сучаснаму і накіраваны ў камуністычную будучыню.

**Працоўныя рэспублікі ўрачыста адзначылі паўвекавы юбілей Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.**

**У Мінскі палац спорту на ўрачысты сход, прысвечаны слаўнай даце, сабраліся прадстаўнікі партыйных, савецкіх, грамадскіх арганізацый, вышэйшых навучальных устаноў краіны, зарубежныя госці.**

## ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова адкрывае сход. Пад гукі марша ў залу ўносяцца сцягі універсітэта. Прысутныя выбіраюць ганаровы прэзідыум сходу ў складзе Палітбюро ЦК КПСС.**

**Слова атрымлівае кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў. (Прамова П. М. Машэрава друкуецца ў сённяшнім нумары).**

**Пётр Міронавіч Машэраў уручыў прадстаўнікам універсітэта Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР, якой узнагароджаны універсітэт у сувязі з 50-годдзем з дня заснавання. П. М. Машэраў зачытаў прывітальнае пісьмо ЦК Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту імя У. І. Леніна.**

**З дакладам аб 50-годдзі універсітэта выступіў рэктар БДУ А. Сеўчанка. З вялікім хваляваннем выказаў А. Сеўчанка словы ўдзячнасці Цэнтральнаму Камітэту КПБ, ураду рэспублікі за высокую ацэнку работы універсітэта і клопат аб развіцці савецкай навукі. Ён запэўніў прысутных, што калектыў універсітэта прыкладзе ўсе намаганні, каб з гонарам выканаць адказныя задачы, якія стаяць перад айчыннай вышэйшай школай.**

**А. Сеўчанка расказаў аб слаўным шляху Беларускага універсітэта, аб ролі, якую ён адыграў у падрыхтоўцы і фарміраванні інтэлігенцыі рэспублікі.**

**Юбіляра цёпла вітаў міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР В. Ялюцін. Ён адзначыў, што вялікія навуковыя дасягненні, поспехі ў развіцці айчыннай навукі і ў падрыхтоўцы шматтысячнага атрада высокакваліфікаваных спецыялістаў зрабілі універсітэт адным з важнейшых цэнтраў перадавой навуковай думкі.**

**— Цяжка пераацаніць ролю, якую адыграў БДУ імя У. І. Леніна ў жыцці нашага народа,— сказаў у сваёй прамове прэзідэнт АН БССР М. Барысевіч. Ён пажадаў калектыву старэйшай навучальнай установы рэспублікі далейшых поспехаў у развіцці навукі, у падрыхтоўцы кадраў спецыялістаў.**

**На сцэну падымаюцца працаўнікі сельскай гаспадаркі з караваем хлеба, спечанага са збожжа ўраджаю гэтага года. На вышытым ручніку яны падносяць гэты дар рэктару універсітэта.**

**Юбіляра віталі міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР М. Мяшкоў, народны паэт БССР П. Броўка, акадэмік-сакратар аддзялення фізіка-матэматычных навук АН СССР, былы выпускнік Беларускага універсітэта Л. Арцымовіч, прарэктар Ягелонскага універсітэта Здзіслаў Опяль, прарэктар Варшаўскага універсітэта Уладзіслаў Радзевальд і іншыя.**

**Зачытваюцца шматлікія віншавальныя тэлеграмы і адрасы, якія паступілі ва універсітэт з усіх канцоў краіны.**

**Удзельнікі ўрачыстасці аднадушна прымаюць тэкст прывітальнага пісьма Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савету Міністраў СССР.**

# ВІНШУЕМ!

За заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва групе работнікаў Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР прысвоены ганаровыя званні.

### НАРОДНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Данілюк Святлане Піліпаўне — салістцы оперы; Кагадзееву Аляксею Пятровічу — галоўнаму хормайстру; Малышавай Клары Мікалаеўне — артыстцы балета.

### ЗАСЛУЖАНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Бруюо-Шуляку Вікенцію Фёдаравічу— салісту оперы; Бржазоўскай Людміле Генрыхаўне — артыстцы балета; Пятровічу Генадзю Уладзіміравічу — артысту хору; Саркісьяну Віктару Уладзіміравічу — артысту балета; Сухіну Аскольду Аўрамавічу — салісту оперы; Траяну Юрыю Антонавічу — артысту балета.

**ДАНІЛЮК Святлана Піліпаўна,** народная артыстка БССР. Нарадзілася ў 1939 годзе ў Кіеве. У 1963 скончыла Украінскую дзяржаўную кансерваторыю. Працавала ў Пермскім тэатры оперы і балета. З 1966 года — артыстка Беларускага тэатра оперы і балета. Выступае ў партыях Кармэн («Кармэн»), Марфы («Хаваншчына»), Амнерыс («Аіда»), Азучэны («Трубадур»), Любашы («Царская нявеста»), Алесі («Алеся»), Веранікі («Зорка Венера»). С. Данілюк — дыпламантка Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага ў Маскве.

**МАЛЫШАВА Клара Мікалаеўна,** народная артыстка БССР. Нарадзілася ў 1935 годзе ў Горкім. Скончыла Пермскае харэаграфічнае вучылішча ў 1955 годзе. У Беларускім тэатры оперы і балета працуе з 1965 года. Ёю створаны партыі Джульеты («Рамеа і Джульета»), Аўроры («Спячая прыгажуня»), Джуліі («Альпійская балада»), Натацькі («Выбранніца»), Кітры («Дон-Кіхот»), Дзяўчыны («Пасля балю»).

**КАГАДЗЕЕЎ Аляксей Пятровіч,** народны артыст БССР. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў Данецкай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю і аспірантуру пры Ленінградскай кансерваторыі. З 1960 — галоўны хормайстар Беларускага тэатра оперы і балета. Займаецца дырыжорскай дзейнасцю.

**БРЖАЗОЎСКАЯ Людміла Генрыхаўна,** заслужаная артыстка БССР. Нарадзілася ў Мінску ў 1946 годзе. Працуе ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета адразу ж пасля заканчэння Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Выконвае партыі Джульеты («Рамеа і Джульета»), Сольвейг («Пер Гюнт»), Адэты-Адыліі («Лебядзінае возера»), Фрыгіі («Спартак»), Дзяўчыны («Пасля балю»).

**БРУЙ-ШУЛЯК Вікенцій Фёдаравіч,** заслужаны артыст БССР. Нарадзіўся ў 1912 годзе. У 1952 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. З 1944 года працуе ў Беларускім тэатры оперы і балета. Выконваў партыі Шуйскага («Барыс Гадуноў»), Жэрома («Заручыны ў манастыры»), Панцялея («Ціхі Дон»), Падзячага («Хаваншчына»).

**ПЯТРОВІЧ Генадзь Уладзіміравіч,** заслужаны артыст БССР. Год нараджэння — 1926. Выпускнік Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі. Інспектар хору тэатра оперы і балета. У тэатры працуе з 1953 года.

**САРКІСЬЯН Віктар Уладзіміравіч,** заслужаны артыст БССР. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Растоўскай вобласці. У 1967 годзе скончыў Мінскае харэаграфічнае вучылішча. З таго часу працуе ў тэатры оперы і балета. Выступае ў партыях Базіля («Дон Кіхот»), Юнака («Пасля балю»), Ротбара («Лебядзінае возера») і інш. Саркісьян — лаўрэат Міжнароднага конкурсу артыстаў балета ў Маскве.

**СУХІН Аскольд Аўрамавіч,** заслужаны артыст БССР. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Архангельску. Скончыў Малдаўскую кансерваторыю, працаваў у Кішынёве, у оперным тэатры, пазней — салістам ансамбля песні і танца ЧБВА. На беларускай опернай сцэне працуе з 1966 года. Яго лепшыя партыі — Дасіфей («Хаваншчына»), Млынар («Русалка»), дон Базіліо («Севільскі цырульнік»). Ён лаўрэат міжнародных конкурсаў вакалістаў у Празе і Сафіі.

**ТРАЯН Юрый Антонавіч,** заслужаны артыст БССР. Год нараджэння — 1950. З 1968 года, пасля заканчэння Мінскага харэаграфічнага вучылішча, працуе ў тэатры оперы і балета. У яго рэпертуары — Зігфрыд («Лебядзінае возера»), Дэзірэ («Спячая прыгажуня»), Рамеа («Рамеа і Джульета»), Машэка («Выбранніца»), Юнак («Пасля балю»).



С. Данілюк. А. Кагадзееў. К. Малышава. В. Бруй-Шуляк. Л. Бржазоўская. Г. Пятровіч. В. Саркісьян. А. Сухін. Ю. Траян.

# УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ І ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР РАБОТНІКАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА ОРДЭНА ЛЕНІНА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

За заслугі ў развіцці музычнага і харэаграфічнага мастацтва ўзнагародзіць:

### ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

**Баркоўскага** Мікалая Нічыпаравіча — артыста аркестра.

**Ваяводскую** Софію Антонаўну— артыстку хору.

**Галушкіну** Лідзію Іванаўну — салістку оперы.

**Ганчарэнку** Васіля Дзямянавіча — саліста оперы.

**Гарэліка** Льва Давыдавіча — артыста аркестра.

**Гур'ева** Віктара Фёдаравіча — саліста оперы.

**Дадзішкіліяні** Атара Міхайлавіча — галоўнага рэжысёра.

**Давыдзенка** Ніну Сцяпанаўну— артыстку балета.

**Карзянкову** Аляўціну Аляксандраўну — артыстку балета.

**Лапарова** Юрыя Аляксандравіча — артыста аркестра.

**Ніжнікаву** Тамару Мікалаеўну — салістку оперы.

**Паўлаву** Ніну Міхайлаўну — артыстку балета.

**Пякарскага** Сяргея Фролавіча— старшага мастака па святле.

**Рыдзеўскага** Ігара Міхайлавіча—намесніка дырэктара тэатра.

**Смялкоўскую** Фрыду Міхайлаўну — артыстку хору.

**Сарокіна** Ігара Дзмітрыевіча — саліста оперы.

**Старыкаву** Клаўдзію Фёдараўну — салістку оперы.

**Талалаева** Барыса Пятровіча —загадчыка мастацка-пастановачнай часткі тэатра.

**Тарэева** Аляксандра Аляксеевіча — артыста аркестра.

**Фінскую** Наталлю Фёдараўну— памочніка рэжысёра па балеце.

**Чарнабаева** Віктара Максімавіча — саліста оперы.

**Чахоўскага** Леаніда Станіслававіча — артыста балета.

**Шаўчэнку** Лідзію Пятроўну — салістку оперы.

**Штэйна** Саламона Абрамавіча — рэжысёра-пастаноўшчыка.

**Юзяфовіч** Людмілу Іванаўну — салістку оперы.

### ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

**Афанасьеву** Святлану Вітальеўну — артыстку аркестра.

**Белехава** Валянціна Генадзевіча — артыста аркестра.

**Бацвінніка** Якава Майсеевіча — артыста балета.

**Братчаву** Вольгу Іванаўну — артыстку хору.

**Грахоўскага** Станіслава Антонавіча — артыста мімансу.

**Ґуртатоўскага** Уладзіміра Пятровіча — старшага інспектара па музычных установах Міністэрства культуры Беларускай ССР.

**Дзідзічэнка** Ірыну Дзянісаўну— артыстку балета.

**Дружыну** Міхаіла Апанасавіча— саліста оперы.

**Елсукову** Веру Паўлаўну — артыстку балета.

**Зданевіча** Міхаіла Аляксандравіча — саліста оперы.

**Золатаву** Таццяну Аляксандраўну — старшага мастака-грымёра.

**Карповіч** Веру Мікалаеўну — старшага касцюмера.

**Кірычэнку** Віктара Лук'янавіча — саліста оперы.

**Качаржэнку** Уладзіміра Емяльянавіча — артыста хору.

**Красоўскую** Раісу Ермалаеўну—артыстку балета.

**Кучынскага** Валерыя Аляксандравіча — саліста оперы.

**Лебедзеву** Ганну Андрэеўну — салістку оперы.

**Луцэвіч** Галіну Пятроўну — хормайстра.

**Малецкага** Рыгора Пятровіча— артыста аркестра.

**Мельнік** Ларысу Філімонаўну— дырэктара вытворчага камбіната па абслугоўванні тэатраў гор. Мінска.

**Машэнскага** Уладзіміра Анатолевіча — дырыжора.

**Паўловіча** Яўгена Мікалаевіча— артыста балета.

**Пякарскую** Ганну Нічыпараўну — старшую светаўстаноўшчыцу.

**Пісарэнку** Аляксандра Васілевіча — галоўнага машыніста сцэны.

**Пола Настассю Васілеўну** — артыстку хору.

**Рамановіч** Алену Пятроўну — рэквізітара тэатра.

**Саўчанку** Аркадзя Маркавіча— саліста оперы.

**Сарокіну** Ірыну Мікалаеўну — артыстку балета.

**Сцяпанаву** Марыю Дзмітрыеўну — памочніка рэжысёра.

**Чыслову** Валянціну Мікалаеўну — памочніка рэжысёра.

**Шыкунову** Ірыну Сямёнаўну — салістку оперы.

**Якімовіч** Анатоля Рыгоравіча— старшага машыніста сцэны.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР**
**Ф. СУРГАНАЎ.**
**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР**
**Л. ЧАГІНА.**

29 кастрычніка 1971 года.
Гор. Мінск.

# АГЛЯДЫ, КАНЦЭРТЫ

●

**У маі наступнага года спаўняецца 50 год Усесаюзнай ордэна Леніна піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна. Падрыхтоўка да юбілею пачалася ў нашай рэспубліцы ўжо зараз. Пра гэта гаварылася на апошнім пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры БССР. Калегія зацвердзіла план мерапрыемстваў да 50-годдзя Усесаюзнай піянерскай арганізацыі. План прадугледжвае, у прыватнасці, правесці ў красавіку 1972 года рэспубліканскі агляд работы дзіцячых тэатраў; навукова-тэарэтычную канферэнцыю кіраўнікоў дзіцячых бібліятэк і піянерважатых школ па тэме: «Піянерская арганізацыя і бібліятэка»; выпусціць новыя тэматычныя зборнікі ў дапамогу піянерважатым і г. д.**

**У гонар 50-годдзя піянерыі Міністэрства культуры СССР разам з ЦК ВЛКСМ і Усесаюзным тэатральным аб'яднаннем аб'явілі ўсесаюзны агляд работы тэатраў для дзяцей. Ад Беларусі ў ім прымуць удзел тэатр юнага гледача, Дзяржаўны тэатр лялек БССР і лялечныя тэатры Брэста і Гомеля.**

●

У будучым годзе спаўняецца 90 год з дня нараджэння народных песняроў Беларусі Я. Купалы і Я. Коласа. Каб азнаменаваць гэту ўрачыстую дату, прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў і калегія Міністэрства культуры БССР вырашылі правесці рэспубліканскі агляд-конкурс самадзейных чытальнікаў на лепшае выкананне твораў Я. Купалы і Я. Коласа.

Агляд-конкурс будзе праходзіць з лістапада 1971 года па май 1972 года.

●

**«Юнацтва выкрывае імперыялізм»,— пад такім дэвізам у наступным годзе будзе праходзіць сусветная палітычная кампанія моладзі. У сувязі з гэтай падзеяй бюро ЦК ЛКСМБ і прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў абвясцілі рэспубліканскі конкурс палітычнай песні. Конкурс будзе праходзіць з кастрычніка гэтага года па красавік наступнага.**

●

Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў абвясціў рэспубліканскі конкурс на лепшы сцэнарый тэматычнага вечара для сельскага клуба, прысвечаны 50-годдзю СССР. Аўтараў лепшых работ чакаюць грашовыя прэміі — першая ў суме 100 рублёў, дзве другія па 75, дзве трэція па 50 рублёў і пяць заахвочвальных.

●

**Калегія Міністэрства культуры БССР і прэзідыум БРК прафсаюза работнікаў культуры прынялі пастанову аб удзеле музеяў рэспублікі ва ўсесаюзным аглядзе масавай навукова-асветнай работы музеяў, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР. Агляд арганізуецца і праводзіцца Міністэрствам культуры СССР, ЦК прафсаюза работнікаў культуры і газетай «Советская культура».**

**Створаны ўсесаюзны аргкамітэт і адпаведныя аргкамітэты на месцах. Старшынёй рэспубліканскага аргкамітэта зацверджана начальнік Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава, намеснікамі—сакратар БРК прафсаюза работнікаў культуры А. Кузьмінова і рэдактар мастацка-экспертнай калегіі па выяўленчым мастацтве Міністэрства культуры БССР Ю. Карачун.**

**Агляд праводзіцца з 15 кастрычніка 1971 г. па 31 снежня 1972 г.**

**Мэта агляду—актывізаваць работу музеяў па прапагандзе рашэнняў XXIV з'езда КПСС, павысіць іх ролю ў камуністычным выхаванні працоўных, палепшыць тэарэтычны, метадычны і арганізацыйны ўзровень масавай навукова-асветнай дзейнасці, садзейнічаць паспяховай падрыхтоўцы да юбілею, абагульняць і распаўсюджваць вопыт лепшых музеяў.**

●

У красавіку будучага года ў Мінску адкрыецца Рэспубліканская мастацкая выстаўка твораў маладых мастакоў, прысвечаная 50-годдзю СССР.

Лепшыя работы гэтай выстаўкі будуць экспанавацца на юбілейнай Усесаюзнай маладзёжнай выстаўцы ў Маскве ў жніўні 1972 г.

Гэтыя выстаўкі павінны расказаць аб жыцці нашага народа, аб тых вялікіх справах, якімі савецкія людзі азнаменавалі 50-годдзе з дня ўтварэння СССР, маладым сучасніку, героі нашага часу, удзеле моладзі ў камуністычным будаўніцтве, працоўных буднях на ўдарных камсамольскіх будоўлях.

У выстаўках прымуць удзел маладыя мастакі, якія працуюць ва ўсіх відах і жанрах мастацтва. Побач з жывапісам, графікай, скульптурай тут зоймуць вартае месца плакат, манументальнае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, творы мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання, мастакоў, якія працуюць над афармленнем гарадоў і ў прамысловай графіцы.

Сакратарыят праўлення Саюза мастакоў СССР прыняў спецыяльны «Зварот Камісіі па рабоце з маладымі мастакамі пры Саюзе мастакоў СССР» да будучых удзельнікаў выставак як да членаў саюза, так і да тых, хто толькі рыхтуецца да ўступлення. У Звароце пералічаны асноўныя тэмы, па якіх будуць будавацца экспазіцыі маладзёжных выставак.

## ДА ЮБІЛЕЮ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Савет Міністраў Беларускай ССР пастанавіў у сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Максіма Багдановіча стварыць рэспубліканскую юбілейную камісію ў складзе: М. Танк (Скурко Я. І.)—старшыня; А. Куляшоў, А. Бачыла — намеснікі; М. Аўрамчык, Г. Анціпаў, Р. Барадулін, А. Бажко, П. Броўка, А. Ваніцкі, А. Грачанікаў, В. Грамыка, М. Жукоўскі, А. Лойка, М. Пятніцкі, Р. Сярноў, М. Татур, Р. Ткачук, Р. Шырма.

# ВЫСОКАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ МАСТАКА

*З КАНФЕРЭНЦЫІ ТВОРЧЫХ РАБОТНІКАЎ, СКЛІКАНАЙ ЦЭНТРАЛЬНЫМ РАЙКОМАМ КПБ г. МІНСКА*

«РОЛЯ творчых калектываў у эстэтычным выхаванні працоўных у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» — такой была тэма навуковай канферэнцыі творчых работнікаў, праведзенай па ініцыятыве Цэнтральнага райкома КПБ горада Мінска. На канферэнцыі прысутнічалі супрацоўнікі Міністэрства культуры БССР, рэжысёры, артысты, мастакі, кіраўнікі творчых саюзаў і арганізацый. Адкрываючы канферэнцыю, першы сакратар райкома Г. Яршоў падкрэсліў, што XXIV з'езд партыі паставіў перад дзеячамі культуры вельмі адказныя задачы па фарміраванні светапогляду новага чалавека — будаўніка камунізма, бо мастацкая творчасць — адзін з важнейшых сродкаў у працэсе выхавання чалавека.

З дакладам выступіў міністр культуры БССР Ю. Міхневіч.

— Грандыёзнае планамернае развіццё ўсіх галін сацыялістычнай гаспадаркі, якое неабходна для пабудовы камунізма, патрабуе і свядомых, ідэйна загартаваных, высокаадукаваных будаўнікоў новага грамадства, — сказаў Ю. Міхневіч. — Такім чынам, выхаваўчая работа ў масах працоўных робіцца адной з асноўных задач партыі і дзяржавы. Гэтая задача ажыццяўляецца хуткімі тэмпамі на ўсім паўвекавым пераможным шляху Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Пільная і неаслабная ўвага да ідэалагічнай работы, працягвае дакладчык, у традыцыях КПСС, у ленінскіх традыцыях. Прынцыповае значэнне гэтай работы раскрываецца і ў пастаяннай, бескампраміснай барацьбе з негатыўнымі з'явамі, з усім тым, што мы называем перажыткам мінулага ў свядомасці і паводзінах людзей. Рэцыдывы дробнабуржуазнасці надзвычай жывучыя па сваёй прыродзе, яны тармозяць развіццё.

Міністэрствам культуры БССР ажыццяўляецца шырокая праграма па прапагандзе і выкананні рашэнняў партыйнага з'езда. Сёння ў рэспубліцы працуе больш за пяць тысяч клубаў, 20 тысяч бібліятэк. Больш 500 тысяч чалавек удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці. Тэатры і канцэртныя арганізацыі Беларусі далі ў 1970 годзе каля 18 тысяч спектакляў і канцэртаў, якія прагледзела і праслухала шэсць мільёнаў чалавек. Расце лік наведвальнікаў музеяў. Асабліва хвалюючыя ўражанні пакідаюць Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, мемарыялы Хатынь, Курган славы, Брэсцкая крэпасць-герой.

Можна было б шмат гаварыць пра поспехі нашага культурнага і мастацкага жыцця, працягвае дакладчык. Але варта засяродзіць увагу творчых работнікаў на нявырашаных праблемах, на тых недахопах, якія перашкаджаюць нашаму руху наперад. Ці не трапляюць на падмосткі тэатраў п'есы, у якіх замест сапраўдных герояў нашага часу дзейнічаюць індэферэнтныя абібокі, персанажы, створаныя па пэўных зарубежных узорах? Некаторыя эстрадныя фельетоны і рэпрызы, напісаныя на нізкім мастацкім узроўні, бедныя па думцы, уздымаюць дробныя пытанні побыту, патураюць нізкім густам часткі гледачоў.

Прамоўца зрабіў заўвагі адносна рэпертуарных планаў тэатраў, адзначыў недахопы ў рабоце па падборы і выхаванні кадраў, асабліва мастацкіх кіраўнікоў творчых калектываў. Міністэрства ў апошні час шмат зрабіла для таго, каб павысіць якасць рэпертуару і ўзровень яго выканання. Сумесна з секцыяй драматургаў Саюза пісьменнікаў БССР прымаюцца захады да таго, каб пісьменнікі разам з тэатрамі распрацоўвалі найбольш значныя і актуальныя тэмы сучаснасці. Праводзіцца конкурс на аднаактовую п'есу.

Сур'ёзнай размовы патрабуе і стан нашага музычнага мастацтва. Узаемаадносіны так званай «сур'ёзнай» і «лёгкай» музыкі ўсё яшчэ складаюцца не на карысць першай. Патрэбна ўзняць патрабавальнасць да дзейнасці канцэртна-эстрадных калектываў, узбагаціць рэпертуар фальклорнымі творамі з выразным народным каларытам. Вялікую карысць маглі б прынесці масавыя святы песні.

Работнікі мастацтва, як і ўвесь наш народ, рыхтуюцца да 50-годдзя ўтварэння СССР. Распрацаваны і ажыццяўляюцца мерапрыемствы, звязаныя з гэтай датай. Будзе праведзены Рэспубліканскі фестываль музычнага мастацтва, які пройдзе па ўсёй рэспубліцы і завершыцца ў Мінскім палацы спорту тэатралізаваным святам. Аб'яўлены Рэспубліканскі агляд драматычных і музычных спектакляў, пастаўленых па творах пісьменнікаў і кампазітараў братніх рэспублік. У пачатку 1972 года Міністэрствам культуры і Саюзам пісьменнікаў рэспублікі будзе праведзены семінар драматургаў.

У рабочым партфелі тэатраў ёсць некалькі п'ес, якія ўяўляюць пэўную цікавасць. Сярод іх — «Ад вясны да вясны» І. Шамякіна, інсцэніроўка яго ж рамана «Снежныя зімы», камедыі А. Макаёнка і М. Матукоўскага, інсцэніроўка рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах», п'еса П. Макаля «Дай вады, калодзеж».

У заключэнне Ю. Міхневіч заклікаў усіх работнікаў ідэалагічнага фронту ствараць мастацкія каштоўнасці з выразнай ідэйнай мэтанакіраванасцю, каб яны па сваім узроўні адпавядалі высокім патрабаванням часу, пра якія нагадаў творчай інтэлігенцыі XXIV з'езд КПСС.

З дакладам «Праблемы сучаснасці, традыцый, наватарства ў мастацтве» выступіла кандыдат мастацтвазнаўства А. Ладыгіна. Яна ўзняла шэраг тэарэтычных пытанняў, якія хвалююць сёння музыкантаў.

Дырэктар Рускага драматычнага тэатра БССР імя Горкага К. Гусеў расказаў пра фарміраванне рэпертуару. Сваёй удачай тэатр лічыць спектаклі «Марыя Сцюарт», «Разгром», «Дзеці Ванюшына». Вялікую карысць прынесла акцёрам работа з рэжысёрам-педагогам У. Маланкіным, а таксама з рэжысёрамі Ю. Любімавым і Б. Глаголіным, якіх запрасілі з Масквы, з тэатра на Таганцы, для пастаноўкі іх інсцэніроўкі аповесці Б. Васільева «А зоры тут ціхія...» К. Гусеў зазначыў таксама, што тэхнічная база тэатра патрабуе неадкладнай мадэрнізацыі.

Аб пошуках новых сродкаў музычнай выразнасці гаварыла ў сваім выступленні музыказнаўца А. Ракава. Яна адзначыла цікавыя знаходкі ў сімфоніях Л. Абеліёвіча, балетных творах Г. Вагнера, араторыі Д. Смольскага, песнях Ю. Семянякі, Ул. Алоўнікава, І. Лучанка. У заключэнне А. Ракава падзялілася ўражаннямі ад музычнага фестывалю «Варшаўская восень», удзельніцай якога яна была.

Служэнне народу — галоўная тэндэнцыя ў развіцці беларускага выяўленчага мастацтва. Гэтай тэме прысвяціў сваё выступленне народны мастак БССР А. Бембель. Беларускае мастацтва заўсёды адлюстроўвала думкі і настрой свайго народа. Так было ў час вайны, калі ў сорак другім годзе ў Траццякоўскай галерэі адкрылася выстаўка нашых мастакоў, якая гаварыла мовай мастацтва: Беларусь жыве і будзе жыць! Так і цяпер. У творчасці М. Данцыга, Г. Паплаўскага, В. Цвіркі, А. Паслядовіч, М. Савіцкага і іншых лепшых мастакоў заўсёды адчуваецца голас часу. Поспехі нашага выяўленчага мастацтва відавочныя. Але, на жаль, да гэтай пары няма ў рэспубліцы ніводнай пастаяннай экспазіцыі. Думаецца, што стварэнне такой экспазіцыі — задача першачарговая. Нельга недаацэньваць тую ролю, якую адыгрывае выяўленчае мастацтва ў справе эстэтычнага і грамадзянскага выхавання працоўных.

Толькі тады артыст зможа расказаць аб самым галоўным у нашым жыцці, калі ён будзе на ўзроўні патрабаванняў часу, сказаў у сваім выступленні галоўны рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы заслужаны дзеяч мастацтваў Ц. Кандрашоў. Размова, якую вядзе артыст з гледачом, павінна весціся на высокім прафесійным узроўні. Інакш не будзе ўзаемаразумення, якое так неабходна.

Пра павышэнне марксісцка-ленінскай адукацыі як галоўную ўмову ідэйнай сталасці мастака гаварыў сакратар партыйнай арганізацыі тэатра оперы і балета Ф. Мурашка. Яго думку прадоўжыў саліст тэатра В. Гур'еў. Ён расказаў аб творчай садружнасці тэатра з працаўнікамі палёў і заводаў.

Усе прамоўцы гаварылі пра высокае прызначэнне мастака, пра тую пачэсную ролю, якая адведзена яму ў фарміраванні і выхаванні савецкага чалавека-будаўніка новага грамадства.

# НОВЫЯ НАРОДНЫЯ

**За шматгадовую і паспяховую дзейнасць у развіцці самадзейнага мастацтва, за дасягнутыя творчыя поспехі і актыўны ўдзел у культурным абслугоўванні працоўных Гомеля і Гомельскай вобласці прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў прысвоіў тэатральнаму калектыву Палаца культуры Упраўлення бытавой абслугі насельніцтва Гомеля званне НАРОДНАГА.**

Здольны, рознабаковы і яркі калектыў акцёраў народнага тэатра вызначаецца высокім узроўнем майстэрства і ўяўляе сабой адзіную школу акцёрскага выканання.

Прафесійным узроўнем і высокай культурай вызначаецца і работа рэжысёраў тэатра. У рэпертуары тэатра — творы беларускай і зарубежнай драматургіі, рускай класікі.

●

**За шматгадовую і паспяховую дзейнасць у развіцці самадзейнага мастацтва, за творчыя поспехі і актыўны ўдзел у культурнай абслузе працоўных Гомеля і Гомельскай вобласці прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафесійных саюзаў прысвоіў эстраднаму аркестру Палаца культуры завода «Гомсельмаш» званне НАРОДНАГА.**

Эстрадны аркестр «Гомсельмаша», створаны ў 1949 годзе, выконвае інструментальныя творы беларускіх, савецкіх і зарубежных кампазітараў. З 1963 года калектыў прымае ўдзел спачатку ў гарадскіх і абласных, а потым і рэспубліканскіх фестывалях. З вялікім поспехам выступаў аркестр на ВДНГ у Маскве, за што быў узнагароджаны Ганаровай граматай і бронзавым медалем.

Аркестр — часты госць у падшэфных калгасах, саўгасах, на прамысловых прадпрыемствах, у воінскіх часцях. Толькі за два апошнія гады аркестр абслужыў 165 тысяч гледачоў, пабываў у 170 калгасах. У рэпертуары музычнага калектыву — творы Райскага і Семянякі, Глебава і Смольскага, Бабаджаняна і Мурадэлі, Астроўскага і Фельцмана.

Пры аркестры ёсць студыя, у якой вучацца маладыя музыканты.

●

**За шматгадовую актыўную работу па культурнай абслузе працоўных Мінскай вобласці і высокае выканаўчае майстэрства калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне НАРОДНАГА мужчынскаму хору Ланскага сельскага дома культуры Нясвіжскага раёна.**

Вёска Лань здаўна славіцца сваімі спевакамі і песнямі. Хор тут нарадзіўся яшчэ ў 1933 годзе. Хаваючыся ад пілсудчыкаў, сяляне спявалі свае родныя народныя песні. Вольнай птушкай узляцела раскаваная песня пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі ў адзінай сям'і народаў Савецкага Саюза.

Каля дзесяці гадоў хорам кіруе энтузіяст народнай песні настаўнік Уладзімір Адамавіч Пешкур. Аснову рэпертуару Ланскага хору складаюць народныя песні і творы савецкіх кампазітараў. Многія з іх выконваюцца акапэльна.

Сельскія спевакі з Лані — нязменныя ўдзельнікі ўсіх рэспубліканскіх аглядаў мастацкай самадзейнасці. На другой і трэцяй дэкадах самадзейнага мастацтва калектыў заваяваў дыпломы першай ступені.

Днямі спевакі прыехалі з Масквы, дзе яны выступалі на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі.

# АБ ГАНАРОВЫХ ЗВАННЯХ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Улічваючы вялікае значэнне ганаровых званняў у ліку сродкаў маральнага стымулявання развіцця творчай актыўнасці рабочых, калгаснікаў і іншых работнікаў народнай гаспадаркі, навукі і культуры рэспублікі ў барацьбе за далейшыя поспехі ў камуністычным будаўніцтве і з мэтай упарадкавання раней выдадзеных актаў аб ганаровых званнях Беларускай ССР, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прыняў пастанову ўстанавіць шэраг ганаровых званняў Беларускай ССР.

Сярод іх званні:

**народны артыст Беларускай ССР;**
**народны паэт Беларускай ССР** або **народны пісьменнік Беларускай ССР;**
**народны мастак Беларускай ССР;**
**заслужаны артыст Беларускай ССР;**
**заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР;**
**заслужаны работнік культуры Беларускай ССР;**
**заслужаны архітэктар Беларускай ССР.**

У палажэнні аб ганаровых званнях Беларускай ССР адзначаецца:

званне **народнага артыста Беларускай ССР** прысвойваецца артыстам і рэжысёрам тэатра, кіно, эстрады, цырка, а таксама кампазітарам і музычным выканаўцам, якія валодаюць выключным майстэрствам, стварылі выдатныя мастацкія вобразы, спектаклі, кінафільмы і музычныя творы, маюць асаблівыя заслугі ў справе развіцця мастацтва краіны і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **народнага паэта Беларускай ССР** або **народнага пісьменніка Беларускай ССР** прысвойваецца пісьменнікам, якія маюць выдатныя заслугі ў галіне развіцця беларускай савецкай мастацкай літаратуры і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **народнага мастака Беларускай ССР** прысвойваецца выдатным дзеячам выяўленчага мастацтва, якія маюць асаблівыя заслугі ў развіцці жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **заслужанага артыста Беларускай ССР** прысвойваецца артыстам і рэжысёрам тэатра, кіно, эстрады, цырка, а таксама музычным выканаўцам, якія валодаюць высокім майстэрствам, стварылі высокамастацкія вобразы, спектаклі, кінафільмы, сваёй дзейнасцю садзейнічаюць развіццю мастацтва і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР** прысвойваецца рэжысёрам, мастакам, архітэктарам, кампазітарам, скульптарам і іншым дзеячам мастацтваў, якія стварылі выдатныя творы мастацтва або маюць вялікія заслугі ў справе выхавання і падрыхтоўкі мастацкіх кадраў, а таксама ў стварэнні навуковых прац у галіне мастацтва і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **заслужанага работніка культуры Беларускай ССР** прысвойваецца высокакваліфікаваным работнікам культурна-асветных устаноў, кінематаграфіі, тэлебачання і радыёвяшчання, друку, выдавецтваў, паліграфічнай прамысловасці і кніжнага гандлю, лектарам партыйных камітэтаў і арганізацый таварыства «Веды» і іншым работнікам культуры, якія бездакорна прапрацавалі ў галіне культуры не менш чым 10 гадоў, маюць вялікія заслугі ў справе камуністычнага выхавання шырокіх мас працоўных, развіцця савецкай культуры і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці;

званне **заслужанага архітэктара Беларускай ССР** прысвойваецца высокакваліфікаваным архітэктарам, якія асабліва вызначыліся ў развіцці беларускай савецкай архітэктуры, праявілі выдатную творчую дзейнасць у галіне горадабудавання, у стварэнні сучасных грамадзянскіх, прамысловых і сельскіх архітэктурных комплексаў, будынкаў і збудаванняў, атрымалі ўсенароднае прызнанне і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

Ганаровыя званні Беларускай ССР прысвойваюцца па прадстаўленні міністэрстваў і ведамстваў, рэспубліканскіх прафсаюзных і іншых грамадскіх арганізацый, выканаўчых камітэтаў абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных.

Хадайніцтвы аб прысваенні ганаровых званняў Беларускай ССР перад міністэрствамі, ведамствамі, рэспубліканскімі прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, выканаўчымі камітэтамі абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных могуць узбуджаць раённыя, гарадскія Саветы дэпутатаў працоўных і іх выканаўчыя камітэты, партыйныя, прафсаюзныя і іншыя грамадскія арганізацыі.

На кожную асобу, якая прадстаўляецца да прысваення ганаровага звання Беларускай ССР, прыкладаецца ўзнагародны ліст зацверджанай формы.

Асобам, якім прысвоены ганаровыя званні Беларускай ССР, Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР уручаюцца адпаведнае пасведчанне і нагрудны знак.

Уручэнне асобам, якім прысвоены ганаровыя званні Беларускай ССР, пасведчанняў і нагрудных знакаў праводзіцца ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Старшынёй, намеснікамі Старшыні, сакратаром і членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР або па даручэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР іншымі асобамі, на гэта ім упаўнаважанымі.

Дублікаты пасведчанняў і нагрудных знакаў, як правіла, не выдаюцца. Яны могуць быць выдадзены толькі ў выглядзе выключэння пры страце пасведчання або нагруднага знака ў час стыхійнага бедства або пры іншых акалічнасцях, калі асоба, якой прысвоена ганаровае званне Беларускай ССР, па прычынах, што не залежаць ад яе, не магла іх захаваць.

Пасведчанне аб прысваенні ганаровага звання Беларускай ССР і нагрудны знак пасля смерці асобы, якой прысвоена ганаровае званне, пакідаюцца ў сям'і памёршага для захоўвання як памяць.

Пазбаўленне ганаровага звання Беларускай ССР можа быць зроблена толькі Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Віктар КАРАМАЗАЎ

# З «РАБОЧАЙ КОСТАЧКАЙ»

Не трэба сядзець, чакаць сваёй чаргі ў прыёмнай.

ПРАБЛЕМЫ...

Колькі было іх!...

Адны ўпіраліся перш-наперш у чалавечыя ўзаемаадносіны, другія — у эканоміку прадпрыемства. Але ўсе яны, урэшце, былі зніталаваны, счэплены паміж сабою.

Калі Ушкевіч прыйшоў на камбінат, ён вырашыў перш за ўсё пагаварыць аб усіх праблемах з самімі рабочымі. Сабраліся на сход. Ведаў, пытанні да яго будуць самыя балючыя, вострыя, нечаканыя, хацелася загадзя ўсе прадугледзець, прадумаць. Але адразу пачуў такое, чаго і не здагадваўся пачуць:

— Што будзеце рабіць з хутарам Галузы?

Галуза — быў папярэдні дырэктар, хутар — дамок на беразе маляўнічай рэчкі Асцёр: дамок паляўнічых і рыбаловаў. Што адказаць? Задумаўся новы дырэктар. Адчуў: рабочыя не хочуць, каб дырэктар адстаючага прадпрыемства, якое не выконвае тры гады вытворчы план, адпачываў у тым доміку, пастаўленым рукамі рабочых. І назвалі ж: «хутар Галузы».

— Цяпер мы там адкрыем піянерскі лагер. Там будуць адпачываць вашыя дзеці, — раптам сказаў Ушкевіч.

І вось яна, першая падтрымка, першае адабрэнне, першы кантакт з калектывам:

— Правільна, дырэктар!.. Правільна!

У той вечар Валерый зразумеў можа самае для сябе галоўнае: трэба бліжэй ісці да людзей, знайсці з імі агульную мову не толькі ў чымсьці простым, лёгкім, усім зразумелым, але і ў самым складаным. Толькі як пазнаёміцца з усімі? На камбінаце тысяча чалавек працуе. Да кожнага хіба дойдзеш адразу? І ўсё ж?.. Паставіў перад сабою такую мэту: пабываць у кожнай брыгадзе, змене, на кожным рабочым месцы. Працавала змена ўвечары — ішоў у цэх увечары, уначы — ішоў уначы, у нядзелю — прыходзіў у нядзелю. Для калектыву гэта было непрывычным, але паступова звыкліся — следам за дырэктарам пачалі ў нерабочы час з'яўляцца спецыялісты, начальнікі цэхаў і служб. Пыталіся, здзіўленыя: навошта гэтак? А ён пытаўся ў адказ: забыліся, што завод у прарыве?.. І гэта былі не проста візіты дырэктара для знаёмства з рабочымі. Трэба было разабрацца, чаму камбінат не выконвае шмат год запар вытворчыя планы, чаму катастрафічна нізкая якасць цэглы, чаму не хапае на камбінаце рабочых рук — людзі не ідуць сюды працаваць, чаму, здараецца, п'янствуюць у цэхах?.. Гэтых «чаму» — дзесяткі, сотні.

Лягчэй было разабрацца з вапнавым цэхам. Тэхналогія, абсталяванне — усё знаёмае па цэментна-шыферным камбінаце, на якім столькі год працаваў. А як разабрацца ў запушчаным цэху сілікатнай цэглы? Чаму там, скажам, нізкая якасць цэглы? Раіўся са спецыялістамі, нават з інстытута выклікаў іх: усе сыходзяцца на тым, што вельмі дробны пясок у кар'еры, а трэба буйнейшы. Значыць — павароту няма? Але побач новы сілікатны цэх і там цэгла цудоўная, хоць сыравіна адна. У чым жа справа?

Дні пошукаў, роздуму, і вось — яснасць. Яна прыходзіць у параўнанні тэхналагічных рэжымаў старога і новага цэхаў. Многае раптам упёрлася ў працэс гашэння вапны. Апошнія гады, калі на камбінаце ішла сляпая пагоня за валам, працэс гэты стыхійна скараціўся, змяніўся. Ды і самі старыя гасільныя барабаны трэба было ўжо выкідаць, ставіць замест іх больш сучасныя — сіласы. Значыць, рэканструкцыя? Вядома. Шаравыя млыны таксама мяняць трэба на больш моцныя. Памянялі. Паставілі двухвальную мяшалку для лепшага замесу масы. Адзін за адным былі ўстаноўлены чатыры аўтаматычныя складальнікі цэглы.

Вядома — гэта быў для камбіната даволі вялікі зрух у рэканструкцыі старога няўтульнага цэха.

— Але каб жа гэтак рабіць: адно ўзваліў на плечы — выцягнуў, затым — другое, трэцяе. Па чарзе. — Валерый пацірае рукі, уздыхае, як ад холаду. — А то ж атрымалася, што, каб выцягнуць камбінат з прарыва, трэба адразу ў дзесяткі вазоў упрагацца.

— Добра, калі гэта на карысць.

— Ну, — Валерый развёў рукамі. — Вось глядзі. Адразу будавалі новы сілікатны цэх, пад'язную чыгунку, заканчвалі будаўніцтва новай тэхналагічнай лініі на вапнавай вытворчасці, жыллё пачалі будаваць, дзіцячы сад. Заклалі саракавасьмікватэрны дом, яшчэ на адзін, з сучасным магазінам, праект рыхтуем. Праектуем лабараторна-бытавы корпус з вялікай сталовай, клуб з рознымі спартыўнымі заламі, пляцоўкамі...

— Скажы, Валерый, ты ўжо даўно тут? — спытаў я.

— Паўтара года, — сказаў ён, і, як спахапіўшыся, дадаў: — Неяк прыехаў у міністэрства. З усімі гэтымі планамі. І здалося, быццам вось гэтак... Нейкі недавер да маіх задум. Успыхнуў. Я, кажу, не за пасадай дырэктарскай гнаўся. Я — камуніст...

ЗА ДОЎГІЯ ЖУРНАЛІСЦКІЯ гады колькі разоў чуў я гэтыя словы ад самых розных людзей: «Я камуніст!» Па-рознаму яны зляталі з вуснаў. Часам — з такім адчуваннем, нібыта гэтае «Я — камуніст!» павінна было даць іх аўтару нейкі празмерны давер, не здабыты працаю, або нейкую палёгку, нейкую візу на падарожжа ў жаданы край. Няёмка рабілася за чалавека. Думалася: навошта ты нагадваеш пра тое, што павінен не словам, усім жыццём сваім, работаю, узлётам душы сваёй выбіваць на чыстым небасхіле. Але, здаецца, даўно не чуў я гэтых слоў з такім даверам, з такім захапленнем, з гонарам — як ад Валерыя. Бо я ведаў яго даўно. І зусім маладым вадзіцелем паравозаў, і механікам цэха, калі ён сам, замест падпітага кранаўшчыка, ляжаў пад кранам — рамантаваў; і партыйным кіраўніком, і цяпер вось — дырэктарам, ой (!) якога нялёгкага прадпрыемства. Я верыў у кожнае яго слова можа нават не толькі таму, што ведаў яго на кожнай з гэтых жыццёвых дарожак. Хутчэй за ўсё, мабыць, таму, што ўсе гэтыя дарожкі не пракладаліся ў розных напрамках, абы як, без разбору: яны ляжалі ў адным напрамку, зліваліся ў адну шырокую дарогу, а ўся гэта дарога мацавалася і той малады «рабочай костачкаю», і цяперашняй яснасцю ў думках у далёка нацэленых вачах, натхнёных і добразычлівых.

І пры ўсёй маёй аддананасці душы чалавечай раптам захацелася спытаць пра самае празаічнае: пра лічбы, працэнты, як цяпер на камбінаце з вытворчым планам? Можа ўжо вырваліся з адстаючых? Ці яшчэ не?..

Аб гэтым я спытаў у Валерыя толькі праз дзень...

ПРАЗ ДЗЕНЬ мы ехалі ў Магілёў. Валерый — на абласны партыйны актыў, я — вяртаўся з камандзіроўкі.

«Козлік», на якім дагэтуль калясілі па раёне, сапсаваўся, але нам не блага было і ў невялічкім кузаве «УАЗа» — добра паляжаць у свежай духмянай саломе, асабліва калі і дарога новая, не дрогкая. Не блізкая, але затое і нагаворышся, і надумаеш удосталь.

— Дык як жа ў цябе, Валерый, з планам? Кажаш, камбінат тры гады план не выконваў, заваліў пяцігодку. Цяпер як?

Ён ляжаў на баку, глядзеў мне ў вочы з сваёй заўсёднай светлай усмешкаю.

— Крыху лепей.

— А ўсё ж?

— За паўгоддзе план выканалі па ўсіх відах прадукцыі. За дзесяць месяцаў дадзім звыш плана чатыры тысячы тон вапны, шэсць тысяч штук цэглы. За першыя два кварталы былі на абласной дошцы гонару...

Ён не сказаў мне, добра гэта на яго думку, ці яшчэ не зусім добра, але я бачыў, што сам ён задаволены. Ён лёг на спіну і доўга глядзеў у брызентавы верх тэнта адкрытымі задумлівымі вачыма. Ён думаў ужо аб іншым і аб гэтым іншым гаварыў ціха, разважліва — не толькі мне, мабыць, але і сабе:

— А ведаеш... Можа цяпер толькі для мяне і пачнецца сапраўдная дырэктарская работа на камбінаце. Што такое дырэктар?.. Бягучы план, бягучыя праблемы — гэта зробіць калектыў. Добры, канечне. Цяпер адукаваныя рабочыя. Яны ўсё разумеюць, ўсё самі зробяць... А ты, дырэктар, павінен думаць, вырашаць, як твой калектыў, тваё прадпрыемства будуць жыць праз два, тры, чатыры гады... Нам было нялёгка, і я не мог не думаць над сённяшнімі праблемамі. Але цяпер... Адчуваю, я магу ўжо думаць пра семдзесят чацвёрты, семдзесят пяты гады... Бачыць там сваіх рабочых, спецыялістаў, камбінат...

Памаўчаўшы, спытаў:

— Ну, што табе яшчэ расказаць? Хочаш, раскажу, як ад п'яніц збавіўся?

— Збавіўся?

— Збавіўся.

— І добра...

— А ведаеш, што ў сілікатных цэхах, дзе робім цэглу, у нас будзе чысціня ідэальная, будуць кветкі цвісці?.. Начальнік новага цэха ўжо думае пра гэта. Абсталяванне ў светлыя колеры пафарбуем, кветкі развядзём... А за цэхам, паўз новую чыгунку, праз год будзе цудоўнае возера. На заводзе патрэбна чыстае паветра. Людзі працуюць..

Дарога была доўгая. Мы шмат гаварылі і шмат маўчалі. Валерый ляжаў і думаў пра сваё. Я думаў пра яго. А потым ён зноў думаў уголас:

— Людзі змяніліся... Раней кіравалі больш загадам. Цяпер іншае. Цяпер трэба выхаваць у чалавека любоў да свайго прадпрыемства, рабочага месца, калектыву і на гэтай любві пабудаваць здароўе ўсяго калектыву. Маральнае здароўе... Калі ўсе рабочыя палюбяць камбінат, як свой родны дом, вось тады я ўбачу рэальна недзе семдзесят пяты год...

НА ПЕРШАМАЙСКАЙ вуліцы у Магілёве мы развіталіся. Нейкая гадзінка яшчэ заставалася да работы абласнога партыйнага актыву, але тут, у Магілёве, і акрамя пасяджэння ў Валерыя была поўная галава клопатаў. Спачатку ён збіраўся бегчы ў будаўнічы трэст, патрабаваць там блокі на будаўніцтва жылога дома, які хацеў узвесці к зіме хоць «да нуля», а потым — у Магілёўскім аддзяленні чыгункі трэба было «вымаліць» інструкцыю на эксплуатацыю новай пад'язной дарогі...

Мы развіталіся, і ён — высокі, шыракаплечы, упэўнены ў жыцці чалавек — пайшоў. У сучасным караткаватым паліто, футравай шапцы, ён не паходзіў на колішняга хлапчука ў кірзачах, ранейшага паравозніка. Але тут, на вуліцы Першамайскай, раптам уявіўся мне тым маладым памочнікам машыніста, выпускніком індустрыяльнага тэхнікума. Здалося, што і цяпер ён усё той жа вадзіцель цяжкавагавых паяздоў, толькі поезд у яго ўжо не той, куды больш важкі і адказны: з экіпажам за тысячу чалавек, з грузамі ў мільёны тон, на мільёны і мільёны народных рублёў...

А ці не з таго яшчэ часу табе, Валерый, наканавана ўсё жыццё вадзіць цяжкавагавыя?..

Дык шчаслівай дарогі табе, дружа. Зялёных агнёў.

# ТОЛЬКІ ПРЫГЛЕДЗЕЦЦА!..

Аддаў натхненне графік і рэвалюцыйнаму мінуламу беларускага народа. Папулярная яго гравюра, прысвечаная рэвалюцыйнай дэманстрацыі ў Смаргоні.

яні ішла гаворка ў творах, і тым сваім сённяшнім настроем, з якім асэнсоўваў характары і падзеі венапомнага мінулага.

На адной з нядаўніх рэспубліканскіх выставак Людвіг Асецкі паказаў серыю афортаў на сучасную тэму. Гэта лісты, прысвечаныя слаўным савецкім маракам, іх напружаным будням, высакароднай службе на абароне водных рубяжоў Айчыны. Трэба сказаць што вельмі выразная пластычна, цікава задуманая кампазіцыйна, гарманічная па ўзаемасувязі лістоў, гэтая серыя ўсё ж не стала падзеяй у творчай біяграфіі мастака, настолькі важнай, як, скажам, прысвечаная мінскім падпольшчыкам. Чаму так здарылася? Мне здаецца, добра валодаючы малюнкам, глыбока вывучыўшы працу маракоў, іх быт, іх нялёгкую службу, мастак усё ж скарыстаў далёка не ўсе магчымасці такога матэрыялу як афорт, каб паглыбіцца ва ўнутраны свет персанажаў. Чамусьці надта ж абмежаванай аказалася палітра афортных прыёмаў. Гэта адзначалі і калегі мастака па творчым цэху. Гаворачы з мастаком у майстэрні сёння, паўтараючы крытычныя закіды, прыведзеныя вышэй, я выказаў думку, што яму варта яшчэ папрацаваць над серыяй, хаця яна і паказвалася на выстаўцы. Варта вярнуцца да назапашаных у часе паездак на флот замалёвак, паспрабаваць па-новаму паглядзець на ўжо зробленае, паэксперыментаваць. Мне здаецца, што мы пагадзіліся з мастаком на тым: добрая аснова ёсць, трэба яшчэ не так ужо, мабыць, многа намаганняў, каб значна ўзмацніць гучанне серыі.

А што ж сёння, з новых работ у майстэрні мастака?

— Як бачыце, можна сказаць зусім нечакана для сябе спрабую сілы зусім не ў графіцы... Выконваю для нашага беларускага музея Вялікай Айчыннай вайны некалькі батальных кампазіцый. Гэта будуць роспісы тэмперай. Тэма? Зразумела ж, гераізм савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Мастак паказвае эскізы кампазіцый. Паказвае распрацаваныя кардоны. Выразны, востра графічны малюнак вугалем на кардонах.

Можна сказаць, амаль завершаны тры кардоны да кампазіцыі на тэму абароны Ленінграда. Іх тэматычная аснова акрэсліваецца такімі ўмоўнымі назвамі: «Матросы», «Неба Ленінграда», «Блакадныя мадонны».

І яшчэ адна група кампазіцый — толькі ўжо для другой сцяны музея — на тэмы Сталінграда; дзве кампазіцыйныя ўстаўкі і фрыз.

Кардоны, выкананыя графікам, пакідаюць добрае ўражанне. Па-мойму, у іх выяўлена добрая мера стрыманасці пачуцця, так характэрныя для графікі Людвіга Асецкага.

Паказаў мастак і спробы каларыстычнага вырашэння роспісаў. Каларыт мяркуецца таксама стрыманы. Вельмі хочацца, каб мастаку ўдалося давесці работу ў самім жывапісе ў добрым суладдзі з ужо знойдзеным пластычным вырашэннем.

Я шчыра кажу яму пра гэта.

А што ж у бліжэйшых творчых планах з тэмы нашай сучаснасці?

— Я доўга жыў у Жодзіне, на слаўным нашым аўтамабільным заводзе-гіганце,— расказвае мастак. — Рабіў там замалёўкі, гутарыў з людзьмі... Жодзінскія сустрэчы пакінулі незабыўныя ўражанні.

Мастак раскладвае на падлозе майстэрні малюнкі. Іх — не адзін дзесятак. А з усіх гэтых графічных замалёвак павінны з'явіцца некальні каляровых лінагравюр. Кожная будзе выканана не больш як у тры — чатыры дошкі:

— Гэтага зусім дастаткова, каб перадаць стрыманую, высакародную гаму атмасферы жодзінскага завода...

І яшчэ — мастак паказаў запісныя кніжкі з лаканічнымі замалёўкамі, зробленымі ў часе зарубежных паездак.

— Мне давялося пабываць у Італіі, Францыі, Венгрыі. З уражанняў, якіх было вельмі багата, перш за ўсё хочацца занатаваць у графічных творах (можа, гэта будуць афорты) будапешцкія... Ну, і зразумела, мае традыцыйныя блізкія падарожжы — у сучасны дзень Мінска. Горад прыгажэе на нашых вачах, увесь час з'яўляюцца новыя матывы. А ці так ужо ўсебакова вычарпалі мы старыя? Варта толькі прыгледзецца!.. Мяркую стварыць серыю афортаў, прысвечаных мінскім пейзажам...

...Мастака можна застаць у майстэрні кожны дзень. Ён працуе засяроджана. Шукае варыянты той ці іншай задумы. Ад запісной кніжкі да выставачнага экземпляра — дыстанцыя, на якой нямала перашкод самага разнастайнага парадку. І пераадолець іх памагае перш за ўсё патрабавальнасць да сябе. Вось з гэтым адчуваннем я яшчэ і яшчэ пераглядаў убачанае ў майстэрні Людвіга Асецкага.

Уладзімір БОЙКА.

Фота аўтара.



Узнёслая, бадзёрая, урачыстая, авеяная подыхам рэвалюцыйных здзяйсненняў рамантыка Чарота — хай сабе часам адцягненая, іншы раз непаўнакроўная — застаецца ў актыве нашай паэзіі і сёння.

Сучаснікі, як правіла, падкрэсліваюць невычэрпную жыццерадаснасць Чарота, яго цвёрдую ўпэўненасць у лепшы заўтрашні дзень. Жыццё паэта не заўсёды было бясхмарным — здараліся непаладкі і асабістага і грамадскага характару. Але Чарот і ў шчасці, і ў няшчасці ўмеў застацца самім сабой, умеў з зайздросным спакоем пераадольваць цяжкасці.

Праўда, у Чарота былі вершы-скараспелкі, аднадзёнкі, агіткі. Былі і захапленні літаратурнай модай, і злоўжыванні дэкларацыйнасцю, касмічнай маштабнасцю, адцягненай сімволікай. У цэлым жа, у сваёй пераважнай большасці, яго творы выраслалі на рэальным грунце паслякастрычніцкай сапраўднасці, жывіліся сокамі нацыянальных традыцый, неслі ў сабе святло ленінскіх ідэй.

У сваёй творчай дзейнасці Чарот заставаўся шукальнікам, разведчыкам «цалінных» тэм, вёў уперад няўрымслівы камсамольскі «Маладняк». Вершамі «Камсамолія», «Маладняк», «Зарунела, зарунела...», «На новай зямлі» ён паказваў маладым паэтам, як шырока, па-баявому могуць гучаць у паэзіі матывы ўслаўлення ўсеперамагаючага поступу сацыялізма. Чарот быў аўтарам найбольш значнага ў беларускай літаратуры таго часу твора аб вялікім правадыры народаў — паэмы «Ленін». Яго ж пяру належыць вельмі арыгінальная паводле задумы і кампазіцыйнай будовы паэма-фантазія «Чырвонакрылы вяшчун», у якой, зноў-такі першым у беларускай савецкай паэзіі, паэт узняў на вышыню мастацкага гучання ідэю інтэрнацыяналізму — ідэю брацкага яднання ўсіх працоўных зямлі ў іх барацьбе з капіталам і дэспатызмам. Разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам Чарот нямала зрабіў для таго, каб паэтычным словам узняць на барацьбу народ Заходняй Беларусі — «краіны, ворагам украдзенай».

Новыя грані і магчымасці таленту Чарота праявіліся ў паэмах «Беларусь лапцюжная», «Марына», «Карчма», творах, цікавых пастаноўкай актуальных пытанняў ідэйна-творчага парадку. У першай з іх паэт імкнецца адшукаць тыя мэтазгодныя формы, якія даюць шырокую прастору для ўвасаблення руху краіны па шляху сацыялістычнага абнаўлення; у другой — зроблена спроба стварыць гераічны вобраз жанчыны — барацьбіткі за чалавечае шчасце; у трэцяй — паэт наблізіўся да рэалістычнага адлюстравання перамен у жыцці і побыце дакалгаснай вёскі. Узнятыя ў вершах і паэмах праблемы і цяпер захоўваюць сваю надзённасць. Пры вырашэнні іх сучаснай паэзіяй нельга абысці вопыт пісьменніка, які яшчэ ў тыя часы завастрыў на іх пільную ўвагу сваіх паплечнікаў.

Шматгранным быў характар Міхася Чарота. І гэтай шматграннасці адпавядала шырыня яго творчых і грамадскіх інтарэсаў. Ён рэдагаваў газету «Савецкая Беларусь», а пасля — часопіс «Чырвоная Беларусь», арганізаваў першае ў нашай рэспубліцы літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Ён быў артыстам у трупе Уладзіслава Галубка. Ён жа аўтар многіх драматычных твораў, у тым ліку народнай драмы «На Купалле», зборніка апавяданняў «Веснаход», аповесці «Свінапас», на аснове якой быў створаны першы беларускі кінафільм «Лясная быль».

І, вядома, ён перш за ўсё паэт — таленавіты пясняр новага ладу, аўтар першай беларускай кастрычніцкай паэмы «Босыя на вогнішчы».

**Міхась ЯРОШ.**

---

Культура. Ёсць у калгасе тры бібліятэкі, дзе на паліцах на самых пачэсных месцах кнігі Коласа ды Купалы. Дарэчы, на гэтай зямлі некалі адбылося першае спатканне двух песняроў зямлі беларускай.

А самы вялікі дом Коласа ў Мікалаеўшчыне — мясцовая дзесяцігодка, якая носіць імя паэта. Будавалася гэтая школа яшчэ клопатам Канстанціна Міхайлавіча. І сёння тут кожны куток напамінае пра яго. А перш за ўсё школьны музей Якуба Коласа, якім загадвае пляменніца паэта, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Соф'я Іосіфаўна Міцкевіч. У музеі шмат унікальных фатаграфій, кніг, дакументаў, звязаных з імем Коласа. І яшчэ адна характэрная рысачка. Школа імя Якуба Коласа — адзіная ў рэспубліцы з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры.

Калі мы развітваліся з гасціннымі гаспадарамі, па школьным радыё паведамілі, што сёння ўвечары адбудзецца літаратурны вечар, прысвечаны 89-годдзю з дня нараджэння іх славутага земляка.

Заканчваючы гэтыя кароткія беглыя нататкі, нельга не расказаць хоць у двух словах яшчэ пра некалькі сустрэч. Мы шмат чулі раней пра Іосіфа Міхайлавіча Міцкевіча, дзядзьку Юзіка, малодшага брата Якуба Коласа, расказвалі, што ён ледзь не напамяць ведае ўсяго Коласа. А што вы думаеце, мо і ведае. Ён чытаў нам кавалкі з «Новай зямлі», ды як чытаў! З якім імпэтам, з якім тонкім веданнем, адчуваннем паэтычнага матэрыялу. А чалавеку ўжо семдзесят шэсць. А за плячыма нялёгкія гады. Іосіф Міхайлавіч — першы старшыня мясцовага калгаса. І сёння не думае пра адпачынак. Ён экскурсавод музея, шмат ездзіць, выступае.

Яшчэ адзін запіс у блакноце. Любоў Міхайлаўна Лёсік, калгасніца. Яна таксама з радні Коласа. Але даведаліся мы пра гэта пасля, зусім выпадкова. Паявілася яе прозвішча ў блакноце, як жанчыны, якая першая запісалася ў калгас, якой першай было прысвоена ганаровае званне майстра-хлебароба.

Невысокая пажылая жанчына з нечакана маладымі блакітнымі вачыма спачатку крыху недаўменна глядзіць у нацэлены на яе фотаб'ектыў, пасля, усплёснуўшы рукамі, смяецца:

— Вось так. Мы, хлебаробы, соль зямлі.

І апошняя сустрэча з чалавекам, у якога, па сутнасці, толькі пачынаецца біяграфія. Люда Бычкоўская, дзесяцікласніца, выдатніца вучобы. Яна марыць стаць настаўніцай, вучыць дзяцей літаратуры.

...На зямлю апусціліся раннія восеньскія прыцемкі, калі мы рушылі назад у дарогу. Недзе побач нячутна каціў свае хвалі Нёман. Мы развіталіся з зямлёй мо такой як усюды, і, разам з тым, не такой. Яна ж дала Беларусі Якуба Коласа.

**М. ЗАМСКІ.**

Фота Ул. КРУКА.

---

*З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ*

Сяргей ЯСЕНІН

# АННА СНЕГІНА

*СТАРОНКІ З ПАЭМЫ**

Не песціць нас бедная, родная
Старонка імгненнай красой,
І лета такое кароткае,
Як цёплая ночка вясной.
Зара халадней і барвовей.
Туман распластаўся ніц.
Ужо ў абляцеўшай дуброве
Разносіцца звон сініц.
Млынар мой шырока ўсміхаецца,
З падворку заходзячы ў дом:
«Цяпер мы, Сяргуха, па зайцах
З ласкавай душою пальнём!»
Я рад паляванню...
Як нечым
Развеяць тугу і сон.
Сягоння, як месяц, пад вечар
У хату ўкаціўся Прон.
«Чуў, дружа!
Вялікая радасць!
Настаў шматчаканы час!
Вітаю з новай уладай!
Цяпер мы іх р-раз і квас!
Без выкупу з гэтага лета
Мы панскі бяром абшар.
Цяпер у Расіі Саветы
І Ленін — у нас камісар.

. . . . . . . . . . . . . . .

У Прона быў брат Лабуця,
Мужык, як кажуць, пусты:
Пры небяспечнай мінуце
Зашыцца гатоў у кусты.
Але з паставай геройскай
Хвалько хадзіў па зямлі.
Насіў ён з вайны японскай
Два белыя медалі.
Ён голасам хрыплым і п'яным
Шынок агалошваў так:
«Праслаўленаму пад Ляоянам
Падайце, браточкі, пятак...»
Пасля, ачмурэлы да дуру,
З суседам сеўшы на ўслон,
Аб здадзеным Порт-Артуры
Ліў слёзы гарачыя ён.
«Браток мой! —
Крычаў ён, —
Пеця!
Баліць мне... Баліць ад ран.
Адвагу маю на свеце
Знае адзін Ляоян».
Такія заўжды на прыкмеце.
Жывуць без турботных спраў.
І вось ён ужо ў Савеце,
Свае медалі схаваў.
Ды з важнасцю непарушнай,
Нібы сівы ветэран,
Хрыпеў над шклянкай сівушнай
Пра Нерчынск і Турухан:
«Браток мой!
Мы гора цярпелі,
Застрашыць жа нас не змаглі...»

. . . . . . . . . . . . . . .

Звінелі, звінелі, звінелі
У словах яго медалі.
І хоць надакучваў Прону
Лабуця, ды гэтым днём
Ён першы, згодна закону,
Апісваў снегінскі дом.
Захоп быў справаю шпаркай:
«Даёш! Валаводзіць кінь!»
У воласць з усёй гаспадаркай
Забралі і гаспадынь.

...Млынар мой...

. . . . . . . . . . . . . . .

Млынар мой пад вечар
Іх з воласці ў дом свой прывёз,
Прымусіў мяне недарэчы
У чужы акунуцца лёс.
Зноў нешта душу ўзварухнула...
Тады я ўсю ноч навылёт
Глядзеў на пакрыўджаны, чулы,
Прыгожы, пажадлівы рот.

Я помню —
Яна гаварыла:
«Даруйце мне жорсткасць абраз...
Я мужа вельмі любіла,
Таму і пакрыўдзіла вас...
Была ў гэтым сумная тайна,
Не ўсе яе распазнаюць...
Тайна, якую звычайна
Злачыннай страсцю завуць.
Да восені шчасця хвілінамі,
Вядома,
Кружыў бы нас хмель...
Пасля б вы мяне пакінулі,
Выплеснулі на мель...
Таму лепш было забыцца
На ўсё... застацца адной...
Тым больш, не магла не лічыцца
Я з маці мараллю старой.»

Маўчаў я, і не пра былое,
Відаць, гаварыў мой пагляд.
І цела яе тугое
Ледзь-ледзь падалося назад.
«Скажыце,
Вам горка, Анна,
За дом... за прысуд сяла!»
Ды неяк сумна, туманна
Свой позірк яна адвяла.

. . . . . . . . . . . . . . .

«Зірніце...
Ужо дасвецце.
Зары пажар на вадзе...
Я ўсё гэта бачыла недзе...
А дзе!..
Не ведаю дзе.
Ах! Так...
Тыя дні за гарамі...
І брамка... І сонца ўзыход...
Мы разам сядзелі з вамі,
А нам —
Па шаснаццаць год...»

А потым, зірнуўшы адкрыта
Мне ў вочы з пяшчотай былой,
Сказала нядбайна нібыта:
«Ну, добра...
Пара на спакой...»

. . . . . . . . . . . . . . .

Пад вечар яны паехалі.
Куды!
Я не знаю куды.
У далях з вяхамі і стрэхамі
Дарогу знойдзеш заўжды.

Не помню падзей тагачасных,
Якім быў сведкаю Прон.
Я хутка ў Піцер памчаўся
Развеяць тугу і сон.

І вось паабапал дарогі
Зноў звонкая далеч раўнін.
Бягуць гаварлівыя дрогі
Па даўніх слядах калаін.
Начная дарога свеціцца,
Пяском абсыпаецца з кол.
Заліты парошаю месяца
Прастор, што разлёгся вакол.
Мільгаюць крыжы і капліцы,
Ваколіцы, студні, плятні.
І сэрца калоціцца, быццам
У тыя далёкія дні.

Зноў млын
І жытло млынарова...
Гараць светлякі на двары.
Ад шчасця зноў вымавіць слова
Не можа млынар мой стары.
«Няўжо гэта ты!
Сярога!
Азябнуў! — пытае млынар. —
Хутчэй для гасця дарагога,
Старая, нясі самавар.
Вось радасць! Ізноў мы з табою!

. . . . . . . . . . . . . . .

І ты, брат, паддаўся гадам...
Я зараз з ласкавай душою
Табе падаруначак дам».
«Які падарунак!»
«Пісьмовы...
Ды ты не спяшайся, браток.
Я гэты лісточак паштовы
Два месяцы як прывалок».

Ускрыў... і чытаю... Вядома!
Адкуль бы яшчэ мне чакаць!
І почырк вачам знаёмы,
І лонданская пячаць.

«Я знаю, вы жывы—здаровы...
Я рада... і помніцца мне
І весніцы тыя і словы,
Што чула ад вас па вясне.
Ад вас я далёка, далёка...
А ў вас красавік на палях,
Пад сінню нябёс яснавокай
Бярозы і сосны ў лясах.
Вось зараз, калі па паперы
Ліецца туга маіх слоў,
Вы, мусіць, у досвітак шэры
Падслухваеце цецярукоў.
Я ж часта з прыстані пыльнай,
Не знаю, на радасць ці страх,
З увагай доўгай і пільнай
Гляджу на савецкі сцяг.
Цяпер развінуў ён крылы.
Мне ж доля мая відна...
Ды вы мне ўсёроўна мілы,
Як бацькаўшчына і вясна»

. . . . . . . . . . . . . . .

Лісток як лісток.
Беспрычынны.
Такіх бы не стаў я пісаць.

Еду, як раней, да адрыны
На сена сваё начаваць.
Іду я праз сад нерухомы,
Сцяжынка хаваецца ў цень.
Так міл мне да болю знаёмы,
Пагорблены часам пляцень.
Калісьці ля брамкі вось гэтай
Мінула шаснаццаць мне.
Дзяўчына ў накідцы светлай
Пяшчотна сказала мне: «Не!»

Далёкія любыя былі!..
Той вобраз у сэрцы не згас.

Мы ўсе ў тыя вёсны любілі,
А, значыць,
Любілі і нас.

*Пераклаў А. КУЛЯШОЎ.*

* Пераклад паэмы будзе надрукаваны ў «Полымі».

# ТЭМА — ПАТРЫЯТЫЗМ

«Рыхтуйцеся сур'ёзна, напружана, няўхільна да абароны Айчыны, да абароны сацыялістычнай Савецкай рэспублікі». Гэтыя ленінскія словы сталі эпіграфам да фотааповесці аб патрыятычных справах арганізацый ДТСААФ Беларусі, якая выпушчана творчай студыяй «Фота і жыццё» Саюза журналістаў БССР.

Маляўнічае ілюстраванае выданне складаецца з некалькіх раздзелаў. У кароткім гістарычным нарысе аўтары З. Слепчык і А. Ляпшэй прасочваюць слаўны шлях, пройдзены Асавіяхімам і яго пераемнікам Добраахвотным таварыствам садзеяння арміі, авіяцыі і флоту. На першых старонках фотааповесці партрэты П. Галавачова, А. Гараўца, А. Кулагіна, С. Карнача і іншых герояў-беларусаў, якія здзейснілі подзвігі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У папулярнай форме расказваецца ў альбоме пра вопыт работы арганізацый ДТСААФ Мінскага трактарнага завода, Аршанскага льнокамбіната, калгаса «Першае мая» Брэсцкай вобласці, саўгаса «Судкова» Гомельскай вобласці, Віцебскага медыцынскага інстытута і іншых перадавых у рэспубліцы пярвічных калектываў таварыства.

Фотааповесць наглядна знаёміць з разнастайнымі формамі і метадамі ваенна-патрыятычнай прапаганды, адлюстроўвае плённую работу па падрыхтоўцы моладзі да службы ва Узброеных Сілах СССР, падрыхтоўцы тэхнічных кадраў для народнай гаспадаркі, развіцці ваенна-тэхнічных відаў спорту.

Альбом выпушчаны масавым тыражом.

РЭПАРТАЖ

# ДВА ТАЙМЫ

Тут, у гэтых пакоях, здаецца, музыка гучыць заўсёды. І тады, калі людзі маўчаць, яны «слухаюць» яе. Бо такі іх абавязак — яны рыхтуюць музычныя перадачы. Калі вы ўключаеце свой «Тэмп» або «Арбіту» і настройваеце апарат на хвалі, якія нясуць у эфір, на блакітныя экраны тэлевізараў песню або сімфонію, гэта азначае, што да вас прыходзіць імі знойдзеная, падрыхтаваная, адрэдагаваная праграма. І ў святочныя дні, поўныя радаснага гучання, таксама. Магчыма, адклаўшы гэты нумар газеты, вы будзеце глядзець і слухаць перадачу, над якой «ламалі галаву» людзі, якіх вы потым ніколі не тое што не пабачыце, а не ўспомніце. Рэдакцыя музычных перадач Беларускага тэлебачання...

Тут спрачаюцца пра густы. Выбіраюць выканаўцаў. Рэдагуюць тэксты. І вясёлыя, жартаўлівыя, і сур'ёзныя, амаль акадэмічныя па змесце. Імёны кампазітараў і артыстаў перабіраюцца эмацыянальна: ёсць любімыя, ёсць «не зусім», а трэба скласці сапраўды цікавую, шырокага далягляду (музычнага далягляду!) праграму.

Чалавечае вока прывыкла да ўмоўнасці. Думаеш пра сімфанічны канцэрт і ўяўляеш сабе сцэну—доўгія рады пюпітраў, водбліскі пражэктараў на золаце духавых, чорныя фракі музыкантаў...

Кіраўнік Мінскага камернага аркестра Юрый Цырук стаіць за дырыжорскім пультам. Шэры світэр, з яго кішэнькі выглядвае пачак цыгарэт «БТ». Аркестр: маладыя, вясёлыя твары, розныя касцюмы. І музыка— Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам Антоніо Вівальдзі. У велізарнай студыі, залітай яркім святлом пражэктараў і юпіцераў, над доўгімі «жураўмі» з чуйнымі мікрафонамі, над блакітнымі экранамі манітораў, над чорнымі ручайкамі кабеляў і правадоў, працягнутых да тэлекамер, льецца музыка, напісаная вялікім італьянскім кампазітарам два стагоддзі назад. XX стагоддзе сустрэлася з XVIII. У адной са студый Мінскага тэлецэнтра ідзе «тракт»—рэпетыцыя будучай музычнай перадачы. Вечарам канцэрт «Іграе Мінскі камерны аркестр» убачаць тысячы людзей.

А зараз ідзе падрыхтоўка да гэтай сустрэчы. Ёсць звычайная работа. Усё размерана і дзелавіта. З такой дзелавітасцю ўпрыгожваюць звычайна рабочыя праспекты і вуліцы горада. І няма ім справы да таго, што, гледзячы на іх работу, кожны міжволі думае пра будучае свята, і ў кожнага з'яўляецца добры святочны настрой. Так і тут. Спакойна праходзіць па студыі рэжысёр перадачы Абрам Навасельскі. Ён ціха дае ўказанні рабочаму крышачку паправіць крэслы, на якіх будуць сядзець музыканты. Дае «ўводныя» аператарам: «Ты, Валера, больш трымай агульны план, а ты, Толя,—саліста лаві». Падказаў, што трэба асвятліць лепш, а дзе пакінуць крыху ценю. І спакойна, павольна пайшоў у рэжысёрскую. З гэтай хвіліны яго «камандны пункт» тут.

Гэты пакой нечым нагадвае рубку акіянскага карабля. Уся студыя адгэтуль, як на далоні. Яна недзе ўнізе, у нас пад нагамі. Толькі вось ні адзін гук не далятае адтуль—студыя адгароджана ад нас двайной шкляной сцяной. І там, унізе, бязгучна рассаджваецца на месцы аркестр, бязгучна перагаворваюцца аператары, бязгучна ходзяць з доўгімі палкамі асвятляльнікі, то адну лямпу павернуць, то другую. За часопісным столікам сядзіць вядучая і аўтар перадачы Любоў Бельская. Яна хвалюецца больш за ўсіх. Яшчэ раз праглядае сцэнарый, яшчэ раз «праганяе» з Юрыем Цыруком яго тэкст. Але вось, здаецца, усё гатова: застылі ля камер аператары, нарэшце расселіся і супакоіліся музыканты, кудысьці на «верхатуру» залезлі асвятляльнікі. Бельская застаецца сам-насам з тэлекамерай. «Тракт» пачынаецца.

Навасельскі садзіцца за рэжысёрскі пульт. Вакол яго нечакана з'яўляецца многа народа: займаюць свае месцы тэхнікі, за велізарны пульт з бясконцымі кнопкамі, садзіцца гукарэжысёр. Кароткая каманда «Увага!» і...

— Добры вечар, дарагія тэлегледачы! (А за акном, між іншым, ва ўсю ўсміхаецца сонца, разганяючы ранішні туман—11 гадзін раніцы). Сёння ў нас у гасцях Мінскі камерны аркестр.

Любоў Бельская расказвае пра аркестр, пра яго гастролі ў Ленінградзе, чытае рэцэнзіі з газет і часопісаў. Уважліва сочаць за яе словамі рэжысёр Навасельскі і гукарэжысёр Надзея Гапачка. Куды падзеўся нядаўні спакой! Увесь час падаюцца каманды аператару: «Толя, рыхтуйся «наехаць» на Любу. Наязджай! Абрэж ёй паперы!» І Анатоль Сцяпанаў «наязджае», ледзь-ледзь падымае камеру, каб не было відаць сцэнарыя, што ляжыць на стале. «Вось так, запомні сваё месца!»—камандуе Навасельскі.

Бельская аб'яўляе першы твор — Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам Вівальдзі. Юрый Цырук узнімае палачку, узмахвае ёй, і... гукарэжысёр націскае кнопку магнітафона. Твор загадзя запісаны на плёнку, і ў эфір пойдзе гук з магнітафона. Тое, што іграе зараз аркестр, чуюць, відаць, толькі асвятляльнікі. Перад рэжысёрам на яго пульце некалькі тэлевізійных экранаў. На кожным з іх ідзе адна і тая ж перадача, а вось адлюстраванне на кожным — рознае. На адным з іх—дырыжор, на другім—вія-

# ЗА БЯСПЕКУ Ў ДАРОЗЕ

*УМОВЫ КОНКУРСУ НА ЛЕПШЫ ТВОР, ПРЫСВЕЧАНЫ БАРАЦЬБЕ ЗА БЯСПЕКУ РУХУ Ў ГАРАДАХ І НА ДАРОГАХ РЭСПУБЛІКІ*

З году ў год у нашай рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, развіваецца аўтамотатранспарт, павялічваецца колькасць машын як у дзяржаўным, так і ў індывідуальным карыстанні грамадзян. У гарадах і на дарогах рух становіцца ўсё больш інтэнсіўным. На жаль, павялічваецца і колькасць аварый, якія наносяць велізарную шкоду. Вось чаму барацьба за бяспеку руху ўсіх відаў транспарту і пешаходаў стала важнейшай задачай дня.

У сувязі з гэтым і для прыцягнення ўвагі ўдзельнікаў руху ўсіх катэгорый да пытанняў культуры, майстэрства, бяспекі руху і выканання правіл пешаходамі аб'яўляецца конкурс на лепшыя творы, прысвечаныя людзям, якія працуюць у аўтатранспарце. Конкурс праводзяць Міністэрства ўнутраных спраў БССР разам з Саюзам пісьменнікаў БССР і Саюзам журналістаў БССР. Яны ж ствараюць і журы конкурсу, якое вызначыць пераможцаў.

На конкурс прымаюцца апавяданні і нарысы, вершы і тэксты песень з музыкай, фельетоны, плакаты з подпісамі, у якіх ставяцца пытанні ўзаемаадносін пешахода і вадзіцеля на вуліцах і дарогах, надзённыя праблемы бяспекі руху, паказваецца вялікая праца работнікаў Дзяржаўнай інспекцыі, грамадскіх аўтаінспектараў, лепшых вадзіцеляў.

Конкурс адкрыты, рукапісы на беларускай або рускай мовах у 2-х экземплярах прысылаюцца з паметкай «на конкурс» па адрасе: г. Мінск, вул. Энгельса, 9, журы конкурсу «За бяспеку ў дарозе».

Рукапісы прымаюцца да 1 кастрычніка 1972 года.

За лепшыя творы журы, не пазней 1 снежня 1972 года, прысуджае прэміі:

За лепшае апавяданне — адна 1-я прэмія — 250 руб., дзве другія — па 150 руб., дзве трэція па 100 руб.

За лепшы нарыс — адна 1-я прэмія — 150 руб., дзве другія — па 100 руб., дзве трэція — па 75 руб.

За лепшы фельетон — адна 1-я прэмія — 100 руб., дзве другія — па 75 руб., дзве трэція — па 50 руб.

За лепшы верш — адна 1-я прэмія — 100 руб., дзве другія — па 75 руб., дзве трэція — па 50 руб.

За песні (тэкст і музыка) — адна 1-я прэмія — 200 руб., дзве другія — па 150 руб., дзве трэція — па 100 руб.

За плакат (з подпісам)—адна 1-я прэмія—200 руб., дзве другія — па 150 руб., дзве трэція — па 100 руб.

Міністэрства ўнутраных спраў БССР.
Саюз пісьменнікаў БССР.
Саюз журналістаў БССР.

*По той бок*

# СМЕРЦЬ КУМІРА

*Заходняя прэса ўсё часцей інфармуе чытачоў аб раптоўнай смерці вядомых выканаўцаў папулярнай музыкі. Упершыню такое паведамленне з'явілася ў 1967 годзе — нечакана памёр чалавек, які прывёў ансамбль «Бітлз» да славы,—Брайян Эпстайн. Той жа лёс напаткаў Брайяна Джонса, Алана Вільсана, Джымі Хендрыкса, Джэніс Джоплін. Тры месяцы назад памёр амерыканскі спявак Джым Морысан. Прама або ўскосна гэта звязана з наркотыкамі.*

*У артыкуле, надрукаваным у нямецкім часопісе «Нойес лебен», ІЛОНА РЭГНЕР даследуе прычыны гібелі адной з ахвяр наркаманіі—славутага амерыканскага гітарыста Джымі Хендрыкса.*

Джымі Хендрыкс нарадзіўся ў амерыканскім горадзе Сіэтле — штат Вашынгтон. Продкі яго былі негры, а адзін з продкаў— індыянка. Зоркай ён стаў дзякуючы бясспрэчнаму музычнаму таленту, на якім нажываліся менэджэры, фірмы грамзапісаў, буйнейшыя выдаўцы. У іх рэкламных выказваннях ён фігурыраваў як «Лепшы гітарыст свету» — «Д'ябал з гітарай».

Прагрэсіўны часопіс «Элан» (ФРГ) у сваім артыкуле, які з'явіўся перад смерцю Джымі Хендрыкса, пісаў пра бліскучае спалучэнне «выдатнай ігры на гітары з магчымасцямі электронікі», а таксама аб зліцці традыцыйных элементаў блюза з матывамі джазу і фальклору. У той жа час «Элан» шкадуе, што Хендрыкс на апошнім фестывалі ў Рэмарне выканаў толькі рад стэрэатыпных баевікоў, толькі зрэдку разрываючы іх руладамі сваіх імправізацый. Часопіс вымушаны быў канстатаваць зніжэнне мастацкага ўзроўню выканання гітарыста ў параўнанні з выступленнем на фестывалі, які прайшоў нядаўна ў Вудстоку.

«Элан» паведамляе, што там Хендрыкс сваё 13-мінутнае сола прысвяціў выкрыццю ваенных злачынстваў арміі ЗША ў В'етнаме, цалкам разрываючы нацыянальны гімн Злучаных Штатаў і разбураючы яго аж да атанальных дысгармоній.

□

Ці было выпадкова, што Джымі Хендрыкс у 24 гады памёр ад наркотыкаў?

Бясспрэчна, што ні адзін чалавек не нараджаецца з маніякальнымі схільнасцямі. Толькі з-за пэўных акалічнасцей ён становіцца такі. Сучасныя грамадскія ўмовы ў імперыялістычных індустрыяльных дзяржавах ствараюць глебу для працвітання наркаманіі, ахвярамі якой становяцца тысячы і тысячы маладых людзей. Але чаму сярод тых, хто памёр ад наркотыкаў, асабліва многа відных прадстаўнікоў шоў? Заняволеныя манаполіямі ідалы пасаджаны тымі, хто выкарыстоўвае іх для павышэння прыбыткаў і брудных здзелак, у залатыя клеткі. Многія пап-зоркі, звязаныя ўмовамі кантракту, вымушаны выконваць песні, якія, як прызнаў сам прэзідэнт амерыканскай фірмы грамзапісаў МГМ Майк Карб, праслаўляюць наркатычныя адчуванні або нават выступаюць у стане наркатычнага афекту. Пра самога сябе Хендрыкс казаў, што яму вядомы ўсе віды наркотыкаў і ўсе наркатычныя афекты. У адным выступленні па тэлебачанні ён прапагандаваў наркотык ЛСД, які даводзіць да вар'яцтва.

Усё новыя афёры з гашышам і ЛСД, як вядома, нават не маюць патрэбы ў доказах. Падвержаны наркаманіі менэджэр Брайян Эпстайн памёр у 1967 годзе ад вялікай дозы наркотыку. Кумір з Ролінг Стоунз Брайян Джонс утапіўся ў 1969 годзе ў сваім шыкоўным басейне, будучы ў трансе пасля прыёму гашышу.

Так што гібель Джымі Хендрыкса ў верасні 1970 года была далёка не першай у ланцугу смерцяў сярод зорак пап-музыкі. Але ён не быў таксама апошні: у снежні 1970 года амаль гэтак жа, як Хендрыкс, вядомая амерыканская спявачка Джэніс Джоплін была знойдзена мёртвай у сваёй кватэры ў Галівудзе. Доўгавалосая зорка з Тэхаса памёрла ад звышдозы наркотыку. На левым прадплеччы нябожчыцы было знойдзена 14 уколаў ад іголкі шпрыца з гераінам...

□

Як рэагавалі на раптоўную смерць Джымі Хендрыкса людзі, якія яго акружалі? 23-гадовая Моніка Данеман з Дзюсельдорфа доўга марыла — як пісала адна гамбургская газета — аб славе першай прынцэсы лёду. Аднак сярод зорак фігурнага катання яна заставалася вельмі пасрэднай. Тады пані Данеман задаволілася фальшывым бляскам спадарожніцы Хендрыкса.

На першых палосах бульварных лісткоў з'явіліся яе імя і партрэт. Ад-

# СУСТРЭЧА БУДЗЕ МЕЦЬ ПРАЦЯГ

Студэнты факультэта мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна наладзілі абмеркаванне рамана Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі». Па запрашэнні рэктарата ў Брэст прыехаў аўтар рамана. Літаратурную сустрэчу распачаў уступным словам загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Ул. Калеснік. У абмеркаванні прынялі ўдзел студэнты Ніна Пратасавіцкая, Уладзімір Гарбарук, Галіна Дзямчук, Ірына Гоман, Мікола Лойка, Мікола Аляхновіч, Вера Кузьміч, Вольга Радзюк, дацэнт А. Майсейчык. Затым выступіў Іван Чыгрынаў. Ён расказаў, як ствараўся раман, падзяліўся творчымі планамі. Было выказана пажаданне наладзіць яшчэ адну такую сустрэчу, калі з'явіцца ў друку наступная кніга рамана.

У апошні час у гарадах рэспублікі адбыліся семінары і нарады бібліятэчных работнікаў. Цэнтралізацыя бібліятэчнай сеткі—гэта пытанне абмяркоўвалася на семінары ў Маладзечне. Вопыт цэнтралізацыі некаторых бібліятэк Расійскай

# РАЯЦЦА БІБЛІЯТЭКАРЫ

Федэрацыі і Латвіі паказаў, што яна дапамагае лепш размеркаваць кніжныя фонды, больш мэтанакіравана выкарыстоўваць сродкі. Раённыя семінары бібліятэчных работнікаў адбыліся таксама ў Салігорску, Уздзе, Барысаве, Ленінскім раёне Мінска. На іх абмяркоўваліся пытанні аб інтэрнацыянальным выхаванні маладых чытачоў, мерапрыемствах па падрыхтоўцы да 50-годдзя СССР.

